# “ХІМІЯ” І ЖЫЦЦЁ



МОГУЦЬ УРАЖВАЦЬ

СТАР. 4–5

ТУТ І ЦЯПЕР
WWW.SVABODABY.NET

# КОЛЬКІ СЛОІКАЎ

НАКАТАЮЦЬ НАШЫ “ЗОРКІ”



СТАР. 6–7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 13.09.12-19.09.12 г.

# “ЯК МЫ ДАЙШЛІ ДА ТАКОГА ЖЫЦЦЯ”

**Гэтае традыцыйнае пытанне абмяркоўвалася чарговы раз падчас сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з кіраўнікамі ўраду і Нацыянальнага банку.**




*Яешня, як ні дзіўна, не заўсёды атрымліваецца*

– *К концу года мы гарантированно выйдем в среднем на 500 долларов,* – заявіў кіраўнік Беларусі, зрабіўшы націск на «в среднем».

Маўляў, калі ваш асабісты заробак не дацягвае да гэтага ўзроўню, парадуйцеся за тых, хто мае больш, і забяспечвае неабходную «сярэднюю тэмпературу па бальніцы».

Але на гэтым добрыя навіны практычна скончыліся. Пачаліся балючыя пытанні.

– *С начала года темп инфляции составил 112%. И это при том, что курс белорусского рубля стабилен. Почему так происходит?* – пацікавіўся Лукашэнка.

Насамрэч, нават паводле афіцыйных звестак, інфляцыя з пачатку 2012-га ўжо склала каля 15%. Рэальна ж гэтую лічбу трэба памнажаць прынамсі на 2...

– *Какие конкретно меры принимают правительство и Нацбанк по решению имеющихся проблем? Как объективно оценивается ситуация текущего и следующего годов? Как будет обеспечена экономическая безопасность страны? За счет каких действий в этих условиях будут обеспечены рост экспорта и положительное сальдо внешней торговли в текущем году и в 2013-м?* – сыпаў пытаннямі Лукашэнка.

Адказы на іх пачуць было б вельмі цікава. Аднак афіцыёз абмежаваў інфармацыю з гэтага мерапрыемства толькі цытатамі з прамовы Лукашэнкі. Падобна, што нават адносна аб’ектыўная ацэнка сітуацыі з боку ўраду і Нацыянальнага банку выглядае не надта аптымістычнай.

> Падобна, што нават адносна аб’ектыўная ацэнка сітуацыі з боку ўраду і Нацыянальнага банку выглядае не надта аптымістычнай.

Канкрэтыку, як заўжды, кампенсавалі лозунгамі. «*Мы должны выйти на траекторию выполнения показателей всей пятилетки... На всех уровнях государственной вертикали следует ввести тотальную мобилизацию кадров для решения обозначенных вопросов*», – патрабаваў з грозным выглядам твару Лукашэнка.

«Татальная мабілізацыя» абвяшчаецца ў Беларусі штогод, аднак далей за заклікі справа не ідзе. Адныя і тыя ж праблемы застаюцца невырашанымі, хоць кіраўнік дзяржавы згадвае іх рэгулярна.

Колькі да прыкладу Лукашэнка казаў пра неабходнасць мадэрнізацыі прадпрыемстваў?.. І вось 11 верасня прагучаў яшчэ адзін, сто першы загад:

– *У каждого руководителя предприятия, который выпускает в месяц даже две табуретки или один письменный стол, на столе должен лежать план модернизации предприятия по выпуску конкурентоспособной продукции, ориентированной на экспорт и импортозамещение.*

Заканчэнне на стар. 3

**НАВІНА**

## НА $220 МЛН БОЛЬШ

**Згодна са звесткамі Нацбанка пра сітуацыю на валютным рынку, у жніўні аб’ём куплі валюты насельніцтвам і кампаніямі перавысіў аб’ём продажу.**

Беларусы за месяц здалі $619,6 мільёна, а набылі $716,4 мільёна. Абодва паказчыкі — максімум ад пачатку года. У выніку сальда куплі валюты насельніцтвам склала $96,8 мільёна.

Такая тэндэнцыя — перавышэнне аб’ёмаў куплі над продажам — назіраецца ўжо трэці месяц запар. За гэты час на чыстай аснове было набыта больш за $300 мільёнаў.

Юрасобы-нерэзідэнты зноў сталі чыстымі купцамі валюты. З улікам закрыцця своп-здзелкі з Кітаем на $1 мільярд імі было набыта $1,036 мільярда.

Аднак і беларускія кампаніі скуплялі валюту. Аб’ём набытай валюты вырас амаль на паўмільярда даляраў і дасягнуў $2,19 мільярда за жнівень. У выніку сальда куплі склала $86,7 мільёна.

Такім чынам, агулам на валютным рынку было набыта на $220 мільёнаў больш, чым прададзена (без уліку своп-пагаднення ў Кітаем). Калі ў наступныя месяцы тэндэнцыя захаваецца, Нацбанк будзе вымушаны ўкідваць на таргі золатавалютныя рэзервы альбо дэвальваваць рубель.

# У 2013 ГОДЗЕ АТРЫМАЕМ “ПОШЛА-ГЛАМУРНЫ АГРАГАРАДОК”?

Па нядаўніх словах мінскага мэра, ужо ў наступных годзе будзе завершана рэканструкцыя гістарычнай часткі Мінску. Наколькі гэта рэальна, разбіралася “Тут і цяпер”.


*Аўтэнтычным Мінск ужо не будзе*

**ЗМІЦЕР РАГАЧОЎ, КРАЯЗНАВЕЦ, СЯБРА МАЛАДЗЁЖНАГА ГРАМАДСКАГА АБ’ЯДНАННЯ «ГІСТОРЫКА»:**
“ХОЧАЦЦА ДАКЛАДНАСЦІ ПРЫ АДНАЎЛЕННІ СТРАЧАНАГА”.

— Тое, што адбываецца зараз, — гэта будаўніцтва на месцы страчанай гістарычнай забудовы слаба навукова абгрунтаваных аб’ектаў, якія па сваіх функцыях маюць мала агульнага з тым, што было. Адпаведна, мне б хацелася, каб цалкам былі выкарыстаны тыя навуковыя матэрыялы, што захаваліся, і каб праектаванне вялося з улікам усіх гэтых матэрыялаў, выяў, фотаздымкаў. Забудова ж гістарычнага цэнтра была знішчана не так даўно, і ёсць фотаздымкі таго, як ён выглядаў. Больш за тое, ёсць абмеры кварталаў, якія знішчаліся на вуліцы Зыбіцкай. Невядома з якой мэтай, але гэта ўсё было абмерана і зафіксавана. Фіксацыя была дакладная — колькі паверхаў, які матэрыял і г.д. Таму, у прынцыпе, усё можна было б узнавіць з дакладнасцю да метра і з выкарыстаннем тых матэрыялаў. Вуліца Зыбіцкая магла б быць узорам дакладнасці. Я вельмі хацеў бы, каб аднавілі Дамініканскі храм. Ён вельмі добра завяршыў бы выгляд Ратушнай плошчы, закрыўшы Палац Рэспублікі.

**ЮРЫ ХАДЫКА, НАВУКОВЕЦ, ПАЛІТЫК, КАРЭННЫ МІНЧУК:**
“ВЯРНУЦЬ ГІСТАРЫЧНУЮ ТАПАНІМІКУ”.

— Цэнтр Мінска стаў выглядаць лепей, чым у часы майго дзяцінства. Так ці інакш, але на плошчы Свабоды аднавілі царкву Святога Духа, толькі зрабілі яе канцэртнай залай. Вось гэта дрэнна. Калі вы аднаўляеце царкву, то яна павінна служыць свайму асноўнаму прызначэнню, таму што гэта выключна савецкая традыцыя — у цэрквах ладзіць архівы. Канцэртная зала, канечне, лепш, але ўсё роўна гэта ненатуральна. Я б аднавіў велічны Дамініканскі касцёл. Яшчэ памятаю званіцу, якая стаяла побач з кафедральным касцёлам. Што можна аднавіць яшчэ? Зразумела, трэба аднавіць гістарычную наменклатуру назваў: пазбавіцца вуліц Леніна, Кірава і г.д. Вярнуць гістарычнаму цэнтру гістарычную тапаніміку і больш клапаціцца пра сапраўдныя помнікі. Я крыху перарабіў бы Мастацкі музей. Ён у нас занадта сучасны. Там вельмі маленькі аддзел старажытнага мастацтва. І калі раней не было магчымасці штосьці зрабіць, то сёння, з дапамогай Акадэміі навук, можна стварыць найвыдатнейшую экспазіцыю старажытнага мастацтва, за якую было б не сорамна ні перад якімі замежнікамі.

**АФІЦЫЙНА**

**Як сцвярджае Мікалай Ладуцька, у гістарычнай частцы Мінска завершана рэканструкцыя 114 аб’ектаў, больш за 70 уведзена ў эксплуатацыю, да канца 2012 года плануецца ўвесці яшчэ 7 аб’ектаў. Праект дэталёвага плана рэканструкцыі, рэстаўрацыі, аднаўлення і добраўпарадкавання гістарычнага цэнтра Мінска кіраўнік дзяржавы ўзгадніў у 2005 годзе. Гэтыя работы вядуцца на тэрыторыі плошчай 115 га.**

**УЛАДЗІМІР ДЗЯНІСАЎ, ГІСТОРЫК КУЛЬТУРЫ:**
“ЗАХАВАЦЬ ХАЦЯ Б ТОЕ, ШТО ЎЦАЛЕЛА”.

— Самае галоўнае — гэта не аднаўляць, а хаця б захаваць тыя рэшткі аўтэнтычных помнікаў, якія яшчэ існуюць. На вялікі жаль, рэстаўрацыяй гэта назваць нельга: зараз на аб’ектах яны вельмі хітра пішуць — “рэстаўрацыя з рэканструкцыяй”. Што гэта такое, я не ведаю. Ідзе асваенне тэрыторый. Робіцца гэта непрафесійна з пункту гледжання навуковай аховы спадчыны. Але што тычыцца аднаўлення мінскага замчышча, то гэта будзе “дыснэйлэнд”. З іншага боку, гэта нядрэнна. Палякі таксама будавалі розныя драўляныя замкі, дзе пачыналася польская гісторыя. Але самае галоўнае, каб не была знішчана аўтэнтычная памяць, што захавалася яшчэ пад зямлёй. Нават у савецкія часы Мінскае замчышча мела статус гісторыка-археалагічнага запаведніка агульнасаюзнага значэння.

**АНТОН АСТАПОВІЧ, СТАРШЫНЯ БЕЛАРУСКАГА ДОБРААХВОТНАГА ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ:**
“ТРЭБА ВЯРНУЦЦА ДА ПРАЕКТА УЛАДЗІМІРА ПАПРУГІ”.

— Законы правядзення аднаўленча-рэстаўрацыйных работ, як і законы логікі, у нас, на жаль, не працуюць. Калі прааналізаваць наша заканадаўства, то, калі і аднаўляць наш гістарычны цэнтр, у першую чаргу трэба аднаўляць яго планіровачную структуру. Тое, што калісьці прапаноўваў архітэктар Уладзімір Папруга. Разгружаць гістарычны цэнтр ад транспарту, ліквідаваць транспартны крыж Нямігі і праспекта Пераможцаў, які рассякае гістарычны цэнтр на фрагменты. І аднаўляць гістарычныя будынкі і збудаванні. І вось гэтыя фрагменты забудовы сапраўды надалі б гістарычнаму цэнтру каштоўнасць, шарм і прыцягальнасць для турыстаў. Як было адзначана, пасля чэмпіянату свету, у 2014 годзе, на замчышчы будзе рэалізоўвацца праект Багласава. Гэтым самым гістарычны цэнтр будзе ператвораны ў чарговы аграгарадок, толькі больш маштабны. Але ж па сутнасці гэта будзе безгустоўны, гістарычна ні з чым не звязаны пошла-гламурны аграгарадок.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# “ЯК МЫ ДАЙШЛІ ДА ТАКОГА ЖЫЦЦЯ”

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Табурэтка апошнім часам ператвараецца ў нейкі фетыш. На мінулым тыдні прэм’ер-міністр Міхаіл Мясніковіч распавядаў пра «чатыры нагі інвестыцыйнай табурэткі». Цяпер яна патрапіла на язык самому кіраўніку дзяржавы. Сімвалічна, што табурэтку, вельмі простую і састарэлую рэч, згадваюць у сувязі з мадэрнізацыяй. Кантраляваць якую будзе не менш састарэлы Пётр Пракаповіч, які цяпер займае пасаду памочніка прэзідэнта – *«ему поручено провести проверку каждого предприятия на предмет модернизации»*.

Калі мадэрнізацыю на ўзроўні КОЖНАГА прадпрыемства будзе курыраваць 70-гадовы Пракаповіч, які летась перанес аперацыю на сэрцы, то, прабачце, загнецца або ён, або мадэрнізацыя, або абодва.

На заканчэнне Лукашэнка выдаў перл, які гучыць нібы прысуд існуючай сістэме:

– *Наши министры и губернаторы в предыдущие годы привыкли только осваивать выделенные из бюджета средства. А где ваша конкретная работа?*

Вось толькі гэтае пытанне можна і трэба адрасаваць таксама самому Лукашэнку.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# АЎТАКРАМА — ЖАХ ЦІ ШЧАСЦЕ

**Нараканняў на работу аўтакрам, якія замянілі на вёсцы звычайныя магазіны, шмат: то прыедзе са спазненнем, то хлеба на ўсіх не хопіць, а то і пратэрмінаванае на два дні малако прывязуць па 8050 рублёў за пакет…**

Уладальнікамі сучасных мабільных пунктаў гандлю з’яўляюцца як дзяржава, так і прыватныя асобы, і абодва бакі разглядаюць такую працу перш за ўсё як заробак. Хаця абласныя спажывецкія таварыствы і іх раённыя філіялы, якія прымаюць рашэнні аб закрыцці нерэнтабельных магазінаў і замене іх аўтакрамамі, выступаюць дзяржаўнымі прадпрыемствамі і пры падрыхтоўцы асартыменту крамы на колах, здаецца, павінны былі б улічваць і памер пенсій старых, і іх густ. Аднак клапаціцца пра пенсіянераў у гэтым плане дзяржава не збіраецца. У гэтым я пераканалася, паназіраўшы за работай аўтакрамы ў вёсцы недалёка ад Мінску, дзе я гасцявала.




*Лаўкі застаюцца. Але …*

## МАЛАКО З УЛІКАМ КОШТУ ЗА БЕНЗІН ТАННЕЙШАЕ

У чарговы раз прыйшоўшы за пакупкамі, я пачула, як вадзіцель папярэджвае вяскоўцаў, што тэрмін годнасці малака скончыўся два дні назад, але яно несапсаванае. Сапраўды, малако ў пакеце тлустасцю 3,2%, выробленае на Навагрудскім масларобчым камбінаце, было някіслае, але ж каштавала яно 8050 (!) рублёў. Як аказалася, гэта звычайная цана на малочны выраб у аўтакраме.

Адпускная цана на гэтае малако на камбінаце на 1 верасня складала 5708 рублёў, а ў звычайных крамах яно прадавалася па 7090 рублёў. Нават у сталічнай прыватнай краме малако тлустасцю 3,7 % мінскага малаказавода зараз каштуе 5410 рублёў, а літровы тэтрапак тлустасцю 2,5% — 7870.

Я падлічыла, што мне з улікам кошту бензіну танней праехаць тры кіламетры на аўтамабілі і набыць малако ў суседняй вёсцы ў прыватніка за 4,5 тысячы, чым браць яго ў аўтакраме. Але ж у пенсіянераў, асноўны ўзрост якіх крыху за 70, такой магчымасці няма.

Калі я запыталася, чаму не знізілі цану на пратэрмінаваную прадукцыю, вадзіцель развёў рукамі: “Гэта ж не я вырашаю, расцэнкі робіць наша кіраўніцтва”. А бабулі адразу загаманілі:

— Добра што ўвогуле прыязджае.

— А што нам старым трэба?! Вось блінкоў зробім, абы было з чаго.

— Дай яму Бог здароўя, ездзіць вось да нас, заўсёды пагаворыць.

Толькі не думаюць бабулі, што разам са шчырымі размовамі прывозяць ім з Навагрудка вельмі дарагую прадукцыю, ды яшчэ і нямала “накручваюць” зверху. Напрыклад, тое ж сметанковае масла вагой 200 г коштам 12 010 рублёў з камбіната адпускаецца па 9384 рублі.

## ТАВАРУ Ў АЎТАКРАМЕ Ў АБРЭЗ

Акрамя цаны, з работай аўтакрамы звязан яшчэ шэраг праблем. Каўбасы, сыр, цукеркі і іншыя тавары, якія патрабуюць узважвання, расфасаваны загадзя, і змяніць памер пакункаў немагчыма, гэтак жа, як і набыць палову хлеба ці батона. Расклад прыезду аўтакрамы — два разы на тыдзень, дакладныя гадзіны не абазначаны (хаця павінны быць). Мясцовыя жыхары кожны раз пільнуюць машыну на лаўцы прыкладна з 13 да 16 гадзін. Аднойчы аўтакрама прыйшла ў сем гадзін вечара і прывезла толькі тры боханы хлеба. У другі раз увогуле не было ніводнага батона. Прычыну спазнення і адсутнасці тавару вадзіцель ніяк не патлумачыў, ды ніхто са старых і не пытаўся.

Я ўсё ж паспрабавала высветліць у вадзіцеля аўтакрамы, чаму на вёску прывозяць такія дарагія прадукты.

— Наша кіраўніцтва стараецца набываць прадукцыю, якая выробляецца толькі ў нашай, Гродзенскай, вобласці: у Ваўкавыску, Навагрудку, Слоніме, каб не вельмі вялікімі былі транспартныя расходы, — распавёў ён. — Таннае малако, так званае сацыяльнае, тлустасцю 1,5 % у нас таксама бывае. Праўда, апошні раз яно набывалася пару месяцаў назад.

Дарэчы, нягледзячы на дзяржаўную прыналежнасць аўтакрамы, можна зрабіць заказ на тавар, якога няма ў мясцовым продажы, і яго прывязуць, але ніхто не скажа, з якой нацэнкай. Вадзіцель расказаў, што, як правіла, тавару ён бярэ ў абрэз, бо калі скончыцца тэрмін годнасці, назад прадукцыю ўжо не здасі, таму часта і не хапае самага неабходнага.

**P.S.** На дадзены момант ад паслуг навагрудскага камбіната кіраўніцтва аўтакрамы адмовілася — цяпер у вёску прывозяць малако з Ваўкавыска коштам 6760 рублёў.

**ІРЫНА СІНІЦА.**

Фота аўтара.

# "ХІМІЯ" І

**У чарговы раз група журналістаў наведала на "хіміі" Паўла Севярынца. У параўнанні з мінулым годам нешта ў Паўла змянілася, але не змяніўся ён сам. Такое ўражанне нават, што ён неяк рамантызуе свой тэрмін знаходжання.**



*Хімія і жыццё*

У вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці спецкамендатура — рэжымны аб'ект. Але ў адрозненне ад папярэдніх камендатур яна выглядае надта рэжымным: на тэрыторыі забаронены фота- і відэаздымкі, на ўваходзе ў будынак камендатуры — краты, унутр нікога не ўпускаюць. А нядаўна, як кажа Павал, па перыметры паставілі відэакамеры — аж восем штук.

Павал, як заўсёды, сустракае наведвальнікаў гарбатай і печывам, і мы ідзём на тэрыторыю "спартовага гарадка" пры камендатуры.

— У адрозненне ад Малога Сітна, тут рэжым больш абмежаваны, — адзначае Павал. — Там можна было перамяшчацца ў межах вёскі, тут — толькі ў межах тэрыторыі. Выхад за агароджу — толькі з дазволу начальства, а выхад на тэрыторыю камендатуры — з дазволу дзяжурнага. Раз на тыдзень — выхад у горад, у царкву, і каб памыцца, бо тут памыцца немагчыма — гарачай вады няма. Нашы сябры прывезлі сюды бойлер, але ўстанавіць яго тут пабаяліся. Як гэта — апазіцыя, "хімікі" будуць мыцца і ўзгадваць добрым словам беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў?

Але, кажа Павел, абстаноўка ў камендатуры спакойная.

— Асабліва "блатных" ці "прыблатненых" "пачысцілі" яшчэ перад маім прыездам. Засталіся тыя, хто адбывае пакаранне ціха. Кшталту "я п'ю цішком, да "званка" буду піць, бо гэта мая барацьба супраць рэжыму, мая жыццёвая пазіцыя.

Так што пра ўмовы ўтрымання Павал можа толькі распавесці.

## ІНТЭРНАТ — "САВОК"

Ад звычайнага студэнцкага інтэрната, кажа Севярынец, пакойчыкі тут адрозніваюцца тым, што выглядаюць як у дабітым "саўку".

Будынак 60-х гадоў, ніхто не рамантаваў, тое што робіцца — робіцца сіламі саміх "хімікаў". Мінімальны парадак ёсць: калі прыедзе праверка, то будзе пафарбавана, падмецена, але варта зайсці ў прыбіральню, і ўсё становіцца ясна.

Прыбіраюць самі хімікі, і ежу гатуюць самі. Калі б "хімікі" харчаваліся ў сталоўцы, то не было б заробкаў, не давалі б работу, тлумачыць Севярынец.

— Неяк, пасля крызісу, кошт пражывання значна вырас — да 360 тысяч за чалавека, а ў пакоі ад трох да пяці чалавек. Але пасля шуму ў інтэрнэце кошт пачаў плаўна зніжацца: было 100, 90 тысяч, потым — 60, летам да 28 тысяч даходзіла. У апошнія два месяцы — нешта кшталту 45 тысяч, — кажа Севярынец.

## ЛЮБІМАЯ ГУЛЬНЯ "ХІМІКАЎ"

Паводле яго слоў, сэнс жыцця камендатуры — гэта адсочванне і пошук спіртнога.

— Бутэлечкі людзі хаваюць у лепшых традыцыях беларускіх партызан, а міліцыянты "падсякаюць", дзе гэтыя "заначкі" ёсць. Прычым яны не вымаюць іх адтуль, а робяць засаду і пільнуюць. І ствараецца такая дэтэктыўная інтрыга — хто каго? Пранесці і напіцца, каб у міліцыянтаў з'явілася пытанне "Як?!", — гэта понт, — смяецца Павал.

Ён адзначае, што людзі п'юць альбо віно, альбо гарэлку. "Глушыць" тэхнічны спірт, як у Малым Сітне, тут лічыцца апошняй справай.

## ПРАЦА

"Хімікі" працуюць у асноўным у калгасах альбо ў фермера Тарасевіча, які жыве непадалёк. Фермер звязан з уладамі, атрымлівае крэдыты, і потым за гэтыя крэдыты калгасны народ, якому ўсё роўна, куды грошы "закопваць", купляе запчасткі, рамантуе сваю тэхніку. Так што тут такая "тэрыторыя прыўладнага бізнесу".

— Фермеру, у якога працуе Павал, даецца крэдыт. За крэдыт ён набывае запчасткі, якія потым ідуць калгасу (не за грошы, а ў доўг). Калі калгас прадае бычкоў альбо садавіну, то лепшае ён аддае фермеру за запчасткі. Фермер гэта грузіць на фуру, гоніць яе ў Мінск ці Маскву і там прадае, зразумела, з прыбыткам. І бізнес адчувае сябе выдатна, — адзначае Павал. — Мяне "ўторкнулі" працаваць на складзе запчастак. Склад — самы вялікі ў Пружанскім раёне: 4 300 пазіцый, 400 квадратных метраў. Трэба ўсё гэтае жалеззе, фарбу, масла, гуму выдаваць калгасам. І, канечне,

# ЖЫЦЦЁ

самы любімы наш час — гэта калі ў Пружанах праходзіць які-небудзь семінар, абласны ці рэспубліканскі. Усе пачынаюць падфарбоўваць траву, агароджы, камбайны, прыязджаюць за пакупкамі.

На складзе бывае ў асноўным інтэлігенцыя: кіраўнікі гаспадарак, інжынерна-тэхнічныя работнікі.

— Цікавая аўдыторыя, якая глядзіць "Белсат", слухае "варожыя галасы" і адпаведна настроена. Практычна не было такога, каб нехта пахваліў Аляксандра Рыгоравіча. Былі выпадкі, калі ганьбілі апазіцыю, але ў асноўным перападае ўладзе і Пятру Пракаповічу. Пракаповіч тут — асноўная фігура. Ён выхадзец з гэтых мясцін і пастаянна напампоўвае грашыма калгасы. З некаторых калгасаў да нас прыязджаюць затарвацца нават на інкасатарскіх "танках" (старыя інкасатарскія машыны з Нацбанка — бранiраваныя "мерседэсы", "форды" — перавезлі сюды). Бранявік прыязджае, пыл улягаецца, а адтуль замест спецпадраздзялення — калгаснікі. Нацбанк сюды адправіў усё, што старое было, і "пазакопваў" кучу грошай. Калгасу не праблема прыехаць да нас на склад і патраціць, напрыклад, 100 мільёнаў, таму што ён падшэфны Нацбанка.

## ЗАРОБАК

Як адзначае Павал, заробак у 1,5—2 мільёны рублёў тут лічыцца вялікім. Але ж і адпрацаваць яго трэба.

— У мяне на складзе — недзе каля мільёна, можа, крыху менш. Я лічуся падсобным рабочым, хоць і выконваю функцыю кладаўшчыка, ці тавараэнаўца. Да таго ж я знаходжуся ў асаблівым становішчы — працую з 8 да 17 гадзін, з выхаднымі ў суботу і нядзелю. У разуменні кіраўніцтва гэта не праца, а лёгкая прагулка. Усе астатнія працуюць сем дзён у тыдзень, у крайнім выпадку — шэсць (калі ты баптыст і згодна з верай дзень працаваць не можаш). А так, ты прыязджаеш на склад а сёмай раніцы і накіроўваешся дадому толькі ў сем вечара. Той, хто з камендатуры, выходзіць у 6, а вяртаецца ў 8. У яго ёсць час прыгатаваць ежу, паглядзець нейкі мульцік і зваліцца на ложак — больш сіл няма.

Але, калі ёсць іскі ці аліменты, то нават ад такога "высокага" заробку застаюцца капейкі.

## ВЫБАРЫ

— Пра выбары ў нас нічога не кажуць, выбараў у нас няма, — кажа Павал. — Здымецца па акрузе зараз адзін АГПшнік з Бярозы, і застанецца ў нас адзін кандыдат — былы старшыня выканкама. Тут ён будзе адзін, інтрыгі няма, нават малога руху няма. Усе разумеюць, што ў яго будзе 90%, альбо, каб не лезці "ўпоперак бацькі", 85.

На выбары ніхто не збіраецца ісці. Калі ніхто не заганіць, то людзі і не пойдуць. Тым больш што людзі, як я казаў, працуюць сем дзён у тыдзень. У калгасах таксама праца, паколькі гэта восень: уборка, рамонты, азімыя… Жадання ў людзей таксама не будзе.

Я б назваў гэта байкотам, калі б гэта было свядома, але ў цэлым гэта няўдзел у выбарах. Няўдзел і абстрагаванне. Год таму, калі бахнуў гэты крызіс, у людзей усё абясцэнілася, яны хоць чымсьці павінны адпомсціць. Абмяркоўванне таго, хто як пагарэў і хто як з гэтага выкручваўся, — дагэтуль адна з галоўных тэм. Усе кажуць, што эканамічны цуд ляснуў. І людзі чакаюць не выбараў — хочуць пабачыць, як пасля іх у чарговы раз лопне гэтая мыльная бурбалка з заробкамі.

Фіга ў кішэні ўладу чакае з часу крызісу, і 23 верасня яна будзе прадэманстравана.

## ТЭЛЕВІЗАР І ВОЛЬНЫ ЧАС

— Ніхто не глядзіць выступленні кандыдатаў па БТ. Шчыра кажучы, мае "калегі" не глядзяць нават футбол "Беларусь — Грузія". Яны глядзяць мульцікі ці серыялы. Гэта не перамагчы. Толькі пару разоў удавалася прабіцца да тэлевізара, каб паглядзець Лігу чэмпіёнаў ці БАТЭ. Выйсце — чытво.

Бібліятэка тут нармалёвая — недзе каля тысячы тамоў, і людзі яшчэ прывозяць нейкія кніжкі. І народ чытае. Калі я раз на тыдзень заходжу ўпарадкаваць бібліятэку, то бачу, што кніжкі карыстаюцца попытам. Але, на жаль, людзі бяруць кніжкі не толькі для чытання. Выдзіраюць лісты і скарыстоўваць па патрэбе, бяруць і вокладкі з кніжак для пропускаў, бо пропускі часцяком губляюцца.

Я, калі Новы запавет у прыбіральні заўважыў, якім падціраліся, сказаў: "Усе да мяне, калі ёсць патрэба, у мяне туалетнай паперы цэлы склад, я вам выдам!" Ніхто не заходзіць, але рваць Святое пісанне перасталі.



Тэлевізар за шчасце

Самому ёсць, што чытаць. Андрэй Дынько на мінулым тыдні прывёз мне недзе 15 выпускаў "ARCHE". У асноўным я чытаю хрысціянскую літаратуру: каталіцкую, праваслаўную, пратэстанцкая трапляецца.

## ТЫПОВЫ НЕТЫПОВЫ ПАВАЛ

Павал прызнаецца: спачатку, калі яго прывезлі ў камендатуру, у яго была мянушка "пісьменнік". Цяпер гэтай мянушкі няма — ён тут "Павал Канстанцінавіч".

— Людзі ўспрымаюць мяне нармальна — складваецца проста цэласны вобраз. Ездзіць у царкву — вернік, не п'е; размаўляе па-беларуску — актыўная палітычная пазіцыя. Вось і ўсё.

Народ тут усё разумее. Тое, што мы літвіны, ведаюць; пра Вялікае Княства Літоўскае ведаюць; з тым, што мову закінулі, усе пагаджаюцца — кепска, сімпатыі тут больш на баку Польшчы. Адчування "касмічнай пустаты", як у Малым Сітне, на мяжы з Расіяй, тут няма.

## І ЎВОГУЛЕ ПАЛІТЫКА

Як кажа Павал, людзі, з якімі ён сутыкаецца на "хіміі", разумеюць, што гэтая схема ўлады "няправільная, прычым няправільная татальна.

— Ясна, што людзей нельга так эксплуатаваць і плаціць ім два мільёны. Яны разумеюць: кепска тое, што крадзёж і хлусня сталі нормай. Усе разумеюць, што жывуць не так, як трэба. Прычым выправіць гэтую сістэму можна. Як Брыль казаў: "Загадайце беларусу быць беларусам, і пабачыце, які цудоўны гэта будзе беларус". Тое самае тычыцца і астатняга. Калі будуць задаваць тон "наверсе", то гэта будзе ўплываць на людзей.

У нас на складзе, напрыклад, не мацюкаюцца. Мы са Славам, з баптыстам, уступілі ў хаўрус і паведамілі: штраф за мацюк — долар. Усё, не лаюцца матам. Тэрыторыя 400 квадратных метраў вольная ад брыдкаслоўя.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

# КОЛЬКІ ГРЫБНА-ЯГАДНЫХ СЛОІКАЎ НАКАТАЮЦЬ НАШЫ “ЗОРКІ”



*Усё, што мы любім*

У гэтым годзе ў Беларусі небывалы ўраджай яблыкаў. Можна сказаць, такое прыемнае стыхійнае бедства. І нават тыя, хто раней закаткамі не займаўся, у гэтым сезоне вараць яблычнае варэнне, джэмы, катаюць узвары і праз дзень пякуць шарлотку.

А яшчэ зараз самы сезон для грыбоў — на іх адсутнасць гэтай восенню таксама ніхто не скардзіцца. З лесу нясуць мяшкі з апенькамі і кошыкі з баравікамі. Рэцэпт прыгатавання грыбоў у кожнага свой.

Ці робяць вядомыя людзі краіны запасы на зіму (катаюць агуркі-памідоры, квасяць капусту), разбіралася **"Тут і цяпер"**.

## АДЖЫКА АД ЭЛЕАНОРЫ ЯЗЕРСКАЙ

**Тэледзіва і свецкая дама Элеанора Язерская ў гэтым годзе вырашыла не займацца нарыхтоўкамі на зіму.**

«А ў мінулым годзе рабіла ткемалі і аджыку, дагэтуль банкі ў халадзільніку стаяць, — распавядае Элеанора. — Ткемалі з адмысловага гатунку сліў вару, а аджыку — з перчыкаў, памідорчыкаў з часнаком. Мая аджыка традыцыйна карыстаецца папулярнасцю. Нават аднаму сябру давала яе з сабой у Італію.

Варэнне, агуркі наогул не раблю. Ды я і закаткі — рэчы несумяшчальныя. Хоць раней сёе-тое гатавала. Напрыклад, яшчэ на старой кватэры на мяне нешта найшло, і я вырашыла паставіць некалькі слоікаў агуркоў. Прычым зрабіла ўсё па правілах: прастэрылізавала, закрыла накрыўкамі, але роўна праз два тыдні ўсе тры слоікі ўзарваліся. А паставіла я іх у спальні, і мае прыгожыя сінія сцены былі ў разводах... Пасля гэтага ў мяне на ўсё жыццё знікла жаданне рабіць запасы на зіму».

## ЦЕШЧЫНЫ МАРЫНАДЫ ДЛЯ ЛЯВОНА ВОЛЬСКАГА

**Беларускі музыка і мастак Лявон Вольскі і гадзіну на варэнне не траціць.**

"Відаць, я расчарую вас: я гэтым не займаюся, — распавядае ён пра сакрэты хатняй гаспадаркі. — І нягледзячы на шалёны ўраджай яблыкаў у гэтым годзе, большасць з іх пойдзе проста на ўгнаенні.

У нас з жонкай няма звычкі рабіць закаткі, галоўным чынам па той прычыне, што бракуе часу, бо збор ураджаю якраз прыпадае на нейкія канцэртныя выезды.

Закаткі на зіму робяць бацькі маёй жонкі Ганны. Сама Ганна добрая гаспадыня. Яна ўмее саліць агуркі, квасіць капусту і зрэдку гэтым займаецца. А так у нашай сям'і згаданая звычка не прыжылася".

## УЗВАРЫ НА РАЧНОЙ ВАДЗЕ ВІКТАРА ЦЯРЭШЧАНКІ

**Экс-кандыдат у прэзідэнты, а сёння кандыдат у дэпутаты Віктар Цярэшчанка гаворыць, што ў іншы год разам з жонкай ставілі па 200–300 слоікаў самых розных закатак. І рабілі нават узвары на рачной вадзе.**

«Грыбы каталі, салаты, агуркі, — кажа Віктар Іванавіч. — Жонка ў мяне ў гэтым сэнсе вялікая майстрыха. А вы ёй патэлефануеце! Я дакладна ведаю, што якраз цяпер яна закаткі і робіць».

Цярэшчанка не схлусіў: калі мы патэлефанавалі, яго жонка рабіла леча.

«Я кожны год нешта раблю, — з задавальненнем распавяла Наталля Валянцінаўна. — У адзін год магу зрабіць столькі нарыхтовак, што хопіць на тры. Але апошнім часам мы перасталі захапляцца кансервацыяй. Асабіста я сама варэнне не ем, гатую яго толькі для Віктара Іванавіча. Калі ёсць ягады, то мы іх марозім.

Летась у нас быў вельмі вялікі ўраджай агуркоў. І я зрабіла іх так многа, што сёлета агуркі не ставіла. Кажуць, быў не вельмі агуррочны год, але ў мяне быў добры ўраджай. Мы другі год на дачы трымаем бройлерных курэй, і я ўсе агуркі скарміла ім, бо не паспявала іх перапрацоўваць".

Дача Цярэшчанкаў знаходзіцца на Браслаўскіх азёрах.

"Тут вельмі чыстая рачная вада, у рацэ — блакітная гліна, — кажа Наталля Цярэшчанка. — Многія лічаць гэтую ваду лячэбнай. І раней я на ёй ставіла ўзвары. Суседка наша спецыяльна ходзіць за вадой на рэчку, хоць ёсць свой калодзеж. Лічыць, што чай, прыгатаваны менавіта на рачной вадзе, смачнейшы.

А што тычыцца блакітнай гліны, то яна насамрэч лячэбная. І адзін час мы раздавалі яе сваім сябрам, суседзям і знаёмым. Калі ў кагосьці праблемы са скурай, то гэта вельмі эфектыўны сродак.

Яшчэ я вельмі люблю грыбы, і збіраць, і рыхтаваць.



Віктар Іванавіч у грыбы ходзіць, але не вельмі ахвотна. Для яго гэта ўсё — марнаванне часу, ён заўсёды мяне прыспешвае. А я люблю зрабіць гэты працэс павольным. Прычым збіраю не ўсе грыбы, а толькі белыя, чырвонагаловікі і падбярозавікі. Але тут побач ёсць такі невялікі бярэзнічак, куды я магу збегаць за грыбамі і адна, без мужа — там не страшна. Хоць і многа дзікоў".

## "СКЛЕПНЫЯ" ЯБЛЫКІ АД ВЯЧАСЛАВА ХАРАНЕКІ

Знакаміты беларускі асілак Вячаслаў Харанека дорыць яблыкі сваім знаёмым.

"Нарыхтоўкі на зіму, вядома, робім, — гаворыць спартсмен. — У гэтым годзе проста вар'яцкі ўраджай яблыкаў. Родныя вараць разнастайныя джэмы, выціскаюць сок. Адно аднаму дорым яблык. Прыходзяць родныя і кажуць: "Паспрабуй, які ў нас гатунак яблыкаў".

Я лічу, што яблыкі — прыемная праблема. І ў маім рацыёне яны займаюць адно з першых месцаў. Яны вельмі карысныя. Раней я пастаянна агрызкі пакідаў, а потым мне сказалі, што менавіта ў зярнятках змяшчаецца шмат карысных рэчываў і яны замяняюць нават штодзённую дозу ёду. Адна бабулька параіла мне з'ядаць увесь яблык, пакідаючы толькі хвосцік. Так што я шмат ем яблыкаў.

Ведаю, што многія імкнуцца яблыкі кансерваваць. І ў каго ёсць склеп, то складваюць іх у скрыні. Мае бацькі, калі яшчэ былі жывыя, перакладалі яблыкі саломай і так захоўвалі. Але цяпер, кажуць, так не рэкамендуецца рабіць. Трэба проста складаць іх у скрыні і падтрымліваць у склепе або там, дзе вы іх захоўваеце, пэўную тэмпературу.

А вось у грыбы я хадзіць не аматар, а есць іх люблю. Я наогул не грыбнік і не паляўнічы, і нават не рыбак. Але пры гэтым люблю адпачываць на прыродзе. Магу ў лесе размінaчку зрабіць...

Наогул выдатна, што ў нас у гэтым годзе такія добрыя ўраджаі — значыць, з голаду не памром!

**МАРЫНА МІТ**

# СТРЫТ-АРТ: СЦЕНЫ НЕ МУСЯЦЬ БЫЦЬ ШЭРЫМІ

Апошнім часам на вуліцах Брэста можна назіраць мноства птушак: каляровых, з народнымі арнаментамі на крылах. «Няўжо ў горадзе з'явіўся стрыт-арт?!», — з захапленнем вымавіла дзяўчына, фатаграфуючы птушку, наклееную на будынак ў цэнтры горада.

Карэспандэнт «Тут і цяпер» адшукала вулічнага мастака, які "рассяліў" па горадзе птушак. Продак (так назваўся хлопец) распавёў аб тым, навошта ён малюе на сценах, хто з'яўляецца спонсарам яго творчасці і як ён пераканаў міліцыянтаў у тым, што нясе ў свет дабро.

**— Як даўно ты займаешся стрыт-артам?**

— Я малюю з маленства. Пачынаў з фламастараў і каляровых алоўкаў, потым узяў у рукі пэндзлі, гуаш, акварэль, крэйду — ну, як усе дзеці.

Да стрыт-арта я дадумаўся яшчэ ў 15-гадовым узросце: неяк убачыў у Нацыянальнай бібліятэцы кнігу пра стрыт-арт з сакавітымі, прыгожымі малюнкамі з усяго свету. Тады і вырашыў намаляваць на агароджы свайго першага зубатага сурка. А потым сустрэў чалавека, які навучыў рабіць трафарэты. І я зразумеў, што трэба працаваць…

Канкрэтную мэту я паставіў сабе гэтым летам, таму што дасталі гэтыя шэрыя сцены. Ды і трэба ж неяк забаўляцца! Вырашыў маляваць карціны не для таго, каб складваць іх у стос ці вешаць на сцяну, а для публікі. Так цікавей. І мне ад гэтага прыемна, і людзям.

**— Чаго ты хочаш дамагчыся, малюючы птушак з нацыянальным арнаментам на будынках горада?**

— Чаго хачу дамагчыся? Па-першае, таго, каб самому было прыемна ісці па вуліцы. Па-другое, мяне вельмі чаруе славянская культура. Чалавек, які ідзе па вуліцы і бачыць арнамент, з якім яго продкі жылі шматлікія гады, магчыма, задумаецца пра тое, хто ён ёсць і што такое наш сучасны свет.

Птушак малюю таму, што гэта міла і сімпатычна. Бачыць птушачак з народнымі арнаментамі прыемней, чым нахабную рэкламу аб тым, што табе трэба купіць тое ці тое. Увогуле, птушкі — гэта ўзламванне «матрыцы»: я хачу разбурыць штодзённае гарадское жыццё. Птушка, ды яшчэ са славянскім арнаментам — гэта вельмі па-бацькоўску, пароднаму. Не павінна быць так, калі, па правілах жыцця горада, сцены мусяць быць шэрымі, агароджы — зялёнымі, а людзі — напалоханымі. Крыху перабольшваю, але ж…

Птушак я ляплю або малюю, калі шпацырую па горадзе. Вядома, калі б мне прапанавалі размаляваць сцены дзесяціпавярховых дамоў, то я б маляваў нешта іншае.

**— У нашай дзяржаве трэба амаль на ўсякую ініцыятыву пытаць дазволу ў прадстаўнікоў улады. У цябе былі праблемы з міліцыяй?**

— З міліцыяй і іншымі структурамі праблем няма, іх і не павінна быць. Аднойчы, калі я наклейваў сваю чарговую работу на сцяну, прыехаў нарад міліцыянтаў. Я іх пераканаў у тым, што нясу дабро і святло ў гэты свет. А гэтай сцяне, на якой напісана некалькі брыдкіх выразаў і палітычных лозунгаў, горш ужо не стане. Афіцэр мяне нават пахваліў і даў свой тэлефонны нумар, каб у выпадку чаго я мог патэлефанаваць яму. Вось так. Сутнасць паспяховага стрыт арта — не адчуваць страху. Ты, наадварот, павінен быць упэўнены, што гэта важна для цябе і гэта прыгожа. Тады ты не будзеш прыцягваць негатыўныя сітуацыі.

**— Ці падабаецца тое, што ты робіш, тваім сябрам, бацькам? Ці не лічаць яны цябе вар'ятам, якому проста няма чым заняцца?**

— Я думаю, што сапраўды разумнаму чалавеку такую творчасць бачыць прыемна. Неразумнага стрыт-арт прымусіць задумацца, а ў дурнога выкліча абурэнне і агрэсію.

Мае бацькі мяне падтрымліваюць ва ўсім творчым. Я для іх — гонар і плод іх сумеснай работы. Адзінае, я маці не распавядаю пра тое, колькі грошай трачу на творчасць. Гэта яе грошы, а сам я не зарабляю. Маю творчасць спансіруе ў асноўным мама.

*Заканчэнне на стар. 8*






# СТРЫТ-АРТ: СЦЕНЫ НЕ МУСЯЦЬ БЫЦЬ ШЭРЫМІ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 7*

**— Колькі грошай вымагае стрыт-арт?**

— Летам атрымаў стыпендыю — амаль мільён выйшаў. Дык я ўсе грошы патраціў на матэрыялы. Для стрыт-арта патрэбны звычайныя фарбы, якія прадаюцца ў любой будаўнічай краме. Для таго, каб займацца такім мастацтвам, патрэбны грошы. Альбо мецэнат. Мяне пакуль што ратуе мая стыпендыя ва ўніверсітэце. Але, на самай справе, нехта можа «бухаць» на гэтыя ж грошы і танчыць у клубах з дзеўкамі. А хтосьці накіроўвае гэтыя сродкі на нейкі праект ці на сям'ю, як мае бацькі.

**— Колькі часу табе патрэбна, каб прыдумаць малюнак і рэалізаваць задуму?**

— Каб намаляваць эскіз, дастаткова гадзіны. Я люблю адразу маляваць, доўга не думаючы, таму што ў галаве гэта ўсё не доўга круціцца, трэба хутчэй увасабляць яго ў жыццё.

**— Ты спрабуеш атрымаць афіцыйны дазвол на стрыт-арт у Брэсце?**

— Для таго, каб зрабіць вялікі роспіс у горадзе, менавіта ў цэнтры, трэба прайсці пэўную працэдуру з паказам эскізаў, перакананнем некаторых асоб у карыснасці сваёй ідэі. Ну і з атрыманнем потым грашовых сродкаў. А яшчэ я размаўляў са старшынёй свайго шматпавярховага дома, і ён быў цалкам за тое, каб ператварыць наш дом у шэдэўр. Таму я таксама планую там нарабіць мастацкіх спраў.

Наконт вялікіх сцен у Брэсце я яшчэ буду дамаўляцца. Магчыма, буду рабіць роспіс у арцы на адным з будынкаў у цэнтры горада. Чакаю адказ з гарвыканкама, але яны такія "тормазы" — гэтае пытанне вырашаюць ужо месяц. Я ў дадзены момант вучуся ў Віцебску. Плану́ю зрабіць вылазку ў горад і наляпіць некалькі пазітыўных плакатаў-заклікаў. Можа, яшчэ ажыццяўлю маленькі перформанс…

Карацей, трэба дзейнічаць, а не штаны праціраць перад «кантактам»!

**— А як ты ставішся да тых, каго камунальныя службы клічуць вандаламі? Тых, хто размалёўвае сцены сваімі аўтографамі?**

— Гэта іх выбар. Многія так робяць таму, што не разумеюць, што можна рабіць нешта іншае. Альбо гэта звычка з дзяцінства, калі малюеш фламастарам там, дзе нельга. На месцы гарадскіх службаў я б накіраваў іх патэнцыял туды, дзе ён патрэбен. У горадзе павінна быць шмат сцен для вольнага графіці, тады і не будзе выдаткаў на бязглуздае зафарбоўванне крамзоляў.

## ХМАРАЧОСЫ І ГРАФІЦІ – ГЭТА ЗДОРАВА!

**НІКА САНДРАС, МАСТАЧКА, БЛОГЕРША:**

Выдатныя работы. Самі па сабе як мастацкія творы. Я б параіла аўтару сур'ёзна заняцца жывапісам. Рэдкі выпадак — усе карціны вельмі беларускія, але нязвыкла сумныя. Кранальныя, сучасныя, крыху іншапланетныя.

Сюжэты вельмі гарманічна ўпісваюцца ў гарадскі пейзаж. Выхопліваюць мінака з мітусні, прымушаюць задумацца аб чымсьці важным, спыніцца, усміхнуцца. Калі б я была мэрам горада, то прапанавала б аўтару распісаць некалькі вялікіх будынкаў. Мне вельмі падабаецца, як у еўрапейскіх гарадах змешваюцца архітэктура мінулых стагоддзяў, сучасныя хмарачосы і графіці. Работы аўтара вартыя вялікіх маштабаў, высокіх каменных палотнаў. Але і ў маленькіх закутках яны глядзяцца вельмі кранальна.

**АЛІНА БОРТНІК**

**ДАВЕДКА**

**Стрыт-арт (анг. street art — вулічнае мастацтва) —** *від выяўленчага мастацтва, адметнасць якога — накіраванасць на гарадское жыццё. Вулічны мастак ставіць сваёй мэтай барацьбу з абывацельскай абыякавасцю, гарадской шэрасцю і засмучэннем урбаністычных пейзажаў. У вулічным мастацтве акцэнт робіцца на дробязях: колеры, сюжэты, якія павінны прыцягнуць увагу звычайнага мінака. (Па матэрыялах Вікіпедыі.)*



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 13.09.12
Тыраж 299 экзэмпляраў